# Тэатр абсурду, альбо што мог

Зьнялі з пасады сп. С. Шушкевіча—сімпатычнага чалавека і бездапаможнага палітыка. Як не ўспомніць ягоныя словы: «Я такі ж, як М. Гарбачоў, толькі больш рашучы!» Перабольшаная самаацэнка, асабліва адносна рашучасьці. І ўсё ж. Да цьвярозага разуменьня непазбежнасьці таго, што адбылося, міжволі прымешваецца адчуваньне горычы. Бо здалі і аплявалі яго тыя, каму ён так хацеў дагадзіць. Здрада апынулася побач са згодаю. Альбо згода са здрадаю. Бо столькі людзей—і прыхільнікаў фронту, і проста абывацеляў—зьвязвалі з ім свае надзеі. Насуперак логіцы і відавочнаму. Няспраўджаныя надзеі—цяжкое абвінавачваньне Шушкевічу-палітыку.

Таму так ненатуральна гучыць яго апраўданьне: «Я зрабіў больш, чым мог». Новы самападман. Асабліва недарэчны ў сітуацыі, якая вымагае бязлітаснага рэалізму аналізу. Інакш больш чым двухгадовы вопыт кіраваньня Вярхоўным Саветам С. Шушкевічам будзе згублены. А вопыт, хоць і адмоўны, рэч каштоўная. І за яго ня трэба плаціць двойчы.

Дык, што ж мог зрабіць і не зрабіў Шушкевіч?

Каб адказаць на гэтае пытаньне, якое хвалюе многіх, давайце мысьленна вернемся ў тыя восеньскія дні 1991 г., калі С. Шушкевіч пры падтрымцы вуліцы заняў крэсла, вызваленае сп. Дземянцеем. Яго падтрымала тады большасьць дэпутатаў, таму што камуністы былі разгублены і напалоханы. Бурліла ўся краіна. Вярхоўны Савет, у складзе якога больш 80% камуністаў, забараніў КПБ—КПСС. Маналіт, які «здаваўся непарушным, раскалоўся. З яго вылучыліся тыя, хто, ня маючы яснай платформы, тым ня меньш быў згодны на рэфармаваньне таталітарнай сістэмы. Групоўка найбольш цьвердалобай наменклатуры, якая аб'ядналася вакол Кебіча, у тыя месяцы налічвала ня больш 40%.

Што падказвала рабіць у такой сітуацыі элементарная палітычная логіка? Зразумела, яна падказвала спробу аб'яднаць гэтую спантанна ўтварыўшуюся большасьць вакол лёзунга дэмакратычных рэформаў, структураваць яе шляхам утварэньня некамуністычных фракцыяў—аграрыяў, прамыславікоў і г. д. і сплаціць іх вакол адзінай арганізаванай антыкамуністычнай сілы—апазіцыі БНФ.

Ці зрабіў такую спробу сп. Шушкевіч? Не і не. Больш таго, з пасьпешлівасьцю, якая заслугоўвала лепшага прымяненьня, ён дыстанцыянаваўся ад апазіцыі, а потым супрацьпаставіўся ёй, усімі сваімі паводзінамі дэманструючы камуністычнай наменклатуры жаданьне служыць яе інтарэсам, калі не ў якасьці яе лідэра, то хаця б у якасьці шырмы. Ён не паставіў пытаньня аб адстаўцы ўрада В. Кебіча, які толькі што прайграў яму на выбарах, і той большасьцю, якая абрала Шушкевіча, мог быць адхілены з пасады прэм'ер-міністра. Наадварот, ён пры любой нагодзе стаў запэўніваць усіх, што ў яго з Вячаславам Францавічам няма ніякіх супярэчнасьцяў. І, здаецца, сам у гэта паверыў. Але не паверыў яму Вячаслаў Францавіч.

У такой сітуацыі няўстойлівая і неарганізаваная прашушкевічаўская большасьць не магла існаваць і пачала мала-памалу размывацца за кошт вяртаньня найбольш палахлівых яе прадстаўнікоў пад крыло цьвёрдага прэм'ера, які ведаў у адрозненьне ад С. Шушкевіча, што рабіць.

Гэта першая, але не апошняя памылка С. Шушкевіча. Была яшчэ вуліца, дзе канцэнтраваўся вялікі дэмакратычны патэнцыял. І быў вопыт Польшчы, дзе пачатак істотным палітычным і эканамічным рэформам быў пакладзены праз Круглы стол. За тым сталом была легалізавана пазапарламенцкая апазіцыя рэжыму. Супрацьстаяньню антаганістычных палітычных сілаў была нададзена цывілізаваная форма. І вынікі гэтага дальнабачнага кроку аказаліся выдатнымі. Спыніліся мітынгі і дэманстрацыі, хутка былі праведзены свабодныя выбары, наступіў грамадзянскі мір. Не аказаліся ў пройгрышы і польскія камуністы. Адмовіўшыся ад састарэлых дагматаў і перагрупаваўшыся, яны захавалі немалы палітычны ўплыў, аб чым сьведчаць выбары 1993 г.

Ці зрабіў сп. Шушкевіч такую спробу? Ізноў-такі—не. Наадварот, ён неаднаразова адхіляў прапановы арганізаваць Круглы стол з удзелам дэмакратычных партыяў і рухаў. Увесь час разважаючы аб згодзе, ён не зрабіў нічога, каб дасягнуць грамадзянскай згоды дзеля рэформаў. Больш таго, ён прыклаў і сваю руку, каб аднавіць дзейнасьць КПБ—КПСС, пасьля чаго пачаўся павольны працэс рэнесансу бальшавізму ў Беларусі, які не мог ня скончыцца адхіленьнем С. Шушкевіча з пасады.

Але самую грубую і недаравальную памылку Шушкевіч зрабіў у канцы кастрычніка 1992 г.

Нагадаем, як мянялася стаўленьне сп. Шушкевіча да рэферэндуму аб новых дэмакратычных выбарах. Пад час кампаніі па збору подпісаў у лютым-сакавіку 1992 г. ён рознымі сродкамі супрацьдзейнічаў гэтай кампаніі, высьмейваючы то фармулёўку, то тэрмін правядзеньня выбараў. Ён спрыяў таму, што вынікі работы ЦВК, якія былі гатовыя ўжо ў пачатку травеня, не былі разгледжаны на веснавой сесіі ВС, а сам Вярхоўны Савет пайшоў на паўгадавыя канікулы. Паводзіны камуністычнай большасьці ВС былі цалкам зразумелыя. Яны вызначаліся, як заўсёды, развіцьцём падзей у Маскве. Там не абясшкоджаная своечасова пасьля жнівеньскага путчу 1992 г. камуністычна-наменклатурная большасьць ВС паступова забірала лейцы ўлады з рук прэзідэнта Ельцына. Нашая большасьць чакала падтрымкі ад сваіх маскоўскіх аднадумцаў.

Надышла восень. Сітуацыя ў Маскве вызначылася як параліч улады. Вярхоўнасаветаўская ахлакратыя прадэманстравала, што яны ў стане заблакаваць працэс рэформаў. Што калектыўная безадказнасьць «народных выбраньнікаў»—надзейная зброя для любога гвалту і свавольства. Тады і сабраўся ВС Беларусі, каб вырашыць пытаньне аб рэферэндуме. І тут сп. Шушкевіч нечакана заяўляе, што падпарадкуецца волі народу.

Можа ён так і думаў. Можа і зразумеў, што новыя выбары—гэта ня толькі шанц для змучанай Беларусі, але і для яго асабіста. Але не так думалі яго сябрыворагі. У канцы кастрычніка 1992 г. упершыню быў разыграны спектакль праламенцкага тэатра абсурду. Галоўную ролю сьціплыя рэжысёры, якія вырашылі застацца за сцэнаю, даручылі маладому перспектыўнаму З. Булахаву. Гэты чалавек, у якога адсутнічаюць прыкметныя сляды сумленьня, бліскуча выканаў сваю партыю. Нагрмаздзіўшы Манбланы хлусьні, ён абвінаваціў ЦВК у тым, што камісія не разабралася ў хітрыках дэмакратаў і што большасць з паўмільёна подпісаў—падробка. Узяўшы грэх на душу, З. Булахаў даў камуністычнай большасьці фармальны повад, хаця яна і без Булахава ведала, што трэба рабіць з рэферэндумам.

Яго забарона была ня толькі грубым парушэньнем Закона аб рэферэндуме, парушэньнем Канстытуцыі, дзе ўсё ж гаворыцца, што вышэйшая ўлада належыць народу Беларусі, парушэньнем правоў асобы

# Мноства «іншамарак» і белы «Мерседэс»

8 красавіка ля будынка Кастрычніцкага райвыканкама Віцебска можна было ўбачыць мноства «іншамарак», а сярод іх дыхтоўны белы «Мерседэс». Унутры ля кожнае дзверы, праходу і павароту стаялі амбалы з бел-чырвона-белымі сцяжкамі на бертах. У гэты дзень Віцебск наведаў старшыня ВС Беларусі спадар Мячэслаў Грыб.

Зала пачала запаўняцца рана. Рыжабароды суб'ект у зацухмоленым пінжачку суваў усім тандэнтную публікатку «За власть трудящихся» за два «зайчика». «Бизнесом занимаюсь убыточным,—касіў пад жабрака,—за 105 покупаем в типографии, за 20 продаем». Нехта паверыць, што тут абышлося без чыйгосьці фінансавага ўлівання, шукайце дурняў! А перадавіца таго нумара называлася, між іншым, «Почему дерутся двое нищих».

Другі «нищий» не прыйшоў, затое ў прэзідыуме нарэшце з'явіліся сп. сп. Грыб—старшыня ВС Беларусі, Косцікаў—наменснік старшыні СМ Беларусі, Кулакоў—старшыня абласнога Савета, Неушаў—старшыня гарадскога Савета і Андрэеў—старшыня Кастрычніцкага раённага Савета Віцебска.

Прамова сп. Грыба доўжылася сорак хвілін. Ён паведаміў, што ад агляду гаспадаркі вобласці мае здавальняючае ўражанне, пацвердзіў сваю прыхільнасць да ідэі аб'яднання грашовых сістэм. У цэлым Старшыня ВС выявіў надзіва дэмакратычныя погляды: прызнаў, што трэба будаваць не капіталізм і не камунізм, а грамадства справядлівасці і згоды; што гандаль з усімі краінамі трэба весці па сусветных цэнах і ўвогуле ніхто не забараняе нам развіваць стасункі з Захадам; мабыць, прыслухаўшыся да эканамічнай платформы БНФ, разважаў: навошта выраблць тое, чаго нельга прадаць?; адзначыўшы, што не трэба лічыць зарплату адзін аднаго, заклікаў пераходзіць да новай сістэмы эканамічных адносін, выключаючы ўраўнілаўку; выказаў думку, што неўзабаве на базе калгасаў будуць створаны акцыянерныя таварыствы.

Далей сп. Неушаў «усцешыў» прысутных навіной, што неўзабаве ацяпленне кватэр спыняецца. Сп. Кулакоў інфармаваў аб барацьбе з вывазам хлеба ў Расею і неабходнасці павышэння цэн на хлеб у спалучэнні з датацыямі бяднейшаму насельніцтву. Сп. Косцікава зала сустрэла непрыхільна, яго прамова была перапынена эмацыянальным жаночым воклічам: «Мы ўсе працавалі на армію, а арміі зараз няма, то і рынкаў збыту няма!»

Адказваючы на пытанні, чаму да крымінальнай адказнасці не прыцягваюць З. Пазьняка і членаў СС «Белая Русь», юрыст Грыб зазначыў, што тут няма складу злачынства.

Нехта падаслаў пытанне, чаму не дзейнічае артыкул 8 крымінальнага кодэкса СССР. Незразумела, ці ведаў юрыст Грыб аб тым, што крымінальны кодэкс СССР ніколі не існаваў (былі Асновы крымінальнага заканадаўства СССР, паводле якіх кожная рэспубліка распрацоўвала свой крымінальны кодэкс), а таму мовіў проста: бо СССР няма. Лагічна.

Але гэтай логікай, што няма СССР, а ёсць Беларусь, на жаль, не кіруецца яе новы кіраўнік. На сустрэчы гучала, па сутнасці, думка, што трэба спадзявацца на нейкіх добрых дзядзькаў з Масквы. Але спадзявацца мусім перад усім на саміх сябе.

Уладзімір КАСТУСЁНАК.

# «ЧОРНАЯ КНІГА» ЗЛАЧЫНСТВАЎ «СОВЕТСКОЙ ВЛАСТИ» НА ВІЦЕБШЧЫНЕ»

**Семінар «Злачынная савецкая ўлада і метады барацьбы з ёй» працягваецца ў форме надрукавання «ЧОРНАЙ КНІГІ» злачынстваў савецкай улады на Віцебшчыне» і абмеркавання матэрыялаў «ЧОРНАЙ КНІГІ» як на паседжаннях Клуба выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» (пляц Волі), так і ў памяшканні рэдакцыі газеты «Выбар» (вул. Гогаля, 17, 4-ы паверх). Запрашаюцца ўсе жадаючыя з супрацьлеглымі поглядамі і інтарэсамі прыняць удзел у абмеркаванні.**

**(Пачатак у №№ 3—12 1994 г.).**

*Камунізм і фашызм—блізняты-браты*

## АХВЯРА САВЕЦКІХ РЭПРЭСІЙ

Да вас звяртаецца ахвяра савецкіх рэпрэсій, у цяперашні час рэабілітаваная.

У кастрычніку 1957 года (падчас 40-годдзя савецкай улады) я была арыштавана органамі дзяржбяспекі Віцебскай вобласці па палітычных матывах, фармуліроўка: «Агітацыя і прапаганда супраць савецкай улады».

Мяне змясцілі на прымусовае лячэнне ў Казанскую спецпсіхтурму МУС СССР, на 11 гадоў 10 месяцаў, без суда і следства, без прад'яўлення якога-небудзь абвінаваўчага заключэння. Мяне пазбавілі неад'емнага права на абарону маіх грамадзянскіх правоў, тым самым было груба нарушана савецкімі карнымі органамі савецкае заканадаўства. Уся мая віна ў тым, што я асмелілася адкрыта напісаць у двух лістоўках чыстую і горкую праўду аб унутранай і знешняй палітыцы ЦК КПСС і савецкага ўрада, якія тварылі ў краіне беззаконне і самадурства, здзек над народам. За гэта я вельмі шмат пацярпела, скалечана і знявечана. На працягу больш 14 гадоў (у агульнай колькасці) нада мной здзекваліся савецкія садысты ў белых халатах—псіхіятры. Супраць мяне прымянялі ўдасканаленыя і вытанчаныя фізічныя і маральныя катаванні, якімі неаднаразова даводзілі мяне да непрытомнага стану, прычынялі мне нечалавечыя пакуты і мучэнні. Напрыклад, пад самым гнюсным гвалтам, з дапамогай турэмнага канвою каты і забойцы выкручвалі рукі, бралі спінна-мазгавую вадкасць, хоць гэта не выклікалася неабходнасцю, душылі за горла, выкарыстоўвалі электрашок, прывязвалі да голага жалезнага ложка на 2—2,5 месяцы і ў гэты час калолі розныя шкодныя ўколы з атрутай па 3 разы ў дзень. Сляды зверскіх нечалавечых пакут засталіся пажыццёва на ўсім маім целе. Я ніколі ў жыцці не была хворай—ні фізічна, ні псіхічна.

Такіх, як я, было ў савецкіх засценках шмат. І таму крывавая савецкая ўлада выканала і перавыканала свой план па колькасці інвалідаў у краіне. А псіхіятры служылі і служаць зброяй супраць іншадумцаў, абараняючы злачынствы прагнілай і заклятай усім светам савецкай улады.

У канцы 1969 года я цудам апынулася на свабодзе з падарваным здароўем, абсалютна без усялякіх сродкаў да існавання, без жылля, пазбаўленая абсалютна ўсіх чалавечых правоў, акрамя адзінага права—на смерць. Каб прыдаць бачнасць законнасці гвалту і самадурству, савецкія псіхіятры прыпісалі мне таямніча і сакрэтна шэраг дыягназаў неіснуючых хвароб, на аснове чаго далі 2-ю групу інваліднасці, узялі на асаблівы штомесячны пажыццёвы ўлік у Віцебскім псіхдыспансеры. Шмат разоў мяне заключалі ў Віцебскую псіхбальніцу без ніякага абгрунтавання і працягвалі да апошняга часу здзеквацца.

14 чэрвеня 1990 года Генеральная пракуратура СССР прынесла пратэст па маёй справе і 20 ліпеня 1990 года я была рэабілітавана Вярхоўным Судом БССР.

Пасля вызвалення з савецкіх «душегубок» я шмат разоў звярталася да ўладаў за дапамогай наконт жылля, але ўсё безвынікова. Ні ў Кастрычніцкім райвыканкаме, ні ў Віцебскім гарвыканкаме я не знайшла праўды і справядлівасці.

Немагчыма апісаць усе зверствы савецкай сістэмы над людзьмі. Мільёны забіты і скалечаны гэтай уладай.

**Ф. МАРГАЎЦОВА, г. Віцебск.**

**СПРАВКА.** Дана Морговцовой Фене Яковлевне, 1923 года рождения, уроженке села Рямщино Богушевского района Витебской области в том, что она действительно была арестована 3 октября 1957 года с предъявлением обвинения по статье 72 п. «а» УК БССР и по определению Витебского областного суда от 25 октября 1957 года направлена на принудительное лечение.

В Казанскую психиатрическую больницу МВД СССР прибыла 25 ноября 1957 года и по определению народного суда Советского района г. Казани от 18 апреля 1969 года освобождена от принудительного лечения 7 мая 1969 года с направлением на принудительное лечение в Витебскую областную психиатрическую больницу.

**Ответ на жалобу от 10.11.86 г. № 13/8-83**

Ваша жалоба, поступившая из Президиума Верховного Совета, прокуратурой области рассмотрена с изучением уголовного дела.

Сообщаю, что на лечение в 1957 году Вы направлялись обоснованно, о чем Вам ранее неоднократно сообщалось.

Одновременно разъясняю, что по вопросу улучшения жилищных условий Вам необходимо обращаться с заявлением в исполком районного Совета народных депутатов.

**Прокурор области старший советник юстиции Г. А. Молодцов.**

**Ответ на жалобу от 18.05.1988 г. № 13/13-83**

Ваша жалоба по поводу применения к Вам принудительных мер медицинского характера Прокуратурой БССР рассмотрена и оставлена без удовлетворения, так как решения судебных органов о применении к Вам этих мер выносились в связи с совершением Вами общественно опасных деяний. Оснований для отмены судебных определений по делам, возбуждавшимся в отношении Вас, Прокуратура республики не находит.

**И. О. начальника отдела Прокуратуры БССР младший советник юстиции Гуринович.**

**Ответ на жалобу от 11.09.1990 г.**

Дело по обвинению Морговцовой Фени Яковлевны, 1923 года рождения, уроженки и жительницы с. Рямщино Богушевского района Витебской области, без определенных занятий до ареста, пересмотрено Верховным судом БССР 20 июля 1990 г.

Определение судебной коллегии по уголовным делам Витебского областного суда от 25 октября 1957 года в отношении Морговцовой Фени Яковлевны отменено и дело за отсутствием состава преступления прекращено. Морговцова Ф. Я. по данному делу реабилитирована.

**Первый зам. председателя Верховного суда БССР В. С. КОНДРАТЬЕВ.**

**Ответ на заявление от 12.10.89 г. № М-7025.**

На Ваше заявление в исполкоме горсовета в дополнение к нашему ответу за № 580 от 30 мая 1988 года сообщаем, что Ваша просьба о предоставлении Вам другой жилой площади, вне очереди, не основана на законе, поэтому удовлетворению не подлежит.

Другая жилплощадь Вам будет предоставлена в соответствии с требованиями Закона—по очереди. Для принятия другого решения у исполкома горсовета оснований не имеется.

**Первый зам. председателя Витебского горисполкома В. К. Лапинский.**

**Ответ на жалобу от 22.02.90 г. № М-255-2**

На Вашу жалобу в Верховный Совет СССР и заявление в исполком горсовета сообщаем, что решением исполкома горсовета от 31.01.90 № 15 с учетом Вашей просьбы и состояния здоровья, Вам взамен занимаемой однокомнатной квартиры № 4, расположенной на 1 этаже, предоставлена равнозначная однокомнатная квартира № 24 на втором этаже, в доме, где Вы проживаете.

**(Далі дакладна такую ж кватэру без зручнасцей, якая была і раней. Як кажуць, змянілі «шило на мыло».—рэд.).**

**Первый заместитель председателя исполкома В. К. Лапинский.**

**УДОСТОВЕРЕНИЕ № 5 (о праве на льготы) Морговцовой Фене Яковлевне**

Предъявитель удостоверения на основании решения комиссии от 3 апреля 1991 г. № 1 Совета народных депутатов имеет право на льготы, установленные Положением «О порядке восстановления прав граждан, пострадавших от репрессий в 20—50-х годах», утвержденные Постановлением Верховного Совета БССР от 21.12.1990 г., а также Постановлением Совета Министров БССР от 29.12.1990 г.

**У той перыяд, калі КПСС абвясціла праграму будаўніцтва камунізма, у Казанскім псіхіятрычным шпіталі простую беларускую жанчыну «выхоўвалі» ў духу патрабаванняў маральнага кодэкса будаўніка камунізма, «прывівалі» любоў і павагу да ленінскай партыі і савецкага ўрада. Злачынная савецкая ўлада адабрала ў яе ўсё: маладосць, здароўе, асабістае жыццё. Узамен дала мізэрная ільготы незаконна рэпрэсіраванай. Кінула міласціну, як бы насміхаючыся. Такая ўлада не мае права на існаванне і павінна быць знішчана.**

# і не зрабіў С. Шушкевіч

кожнага грамадзяніна краіны. Гэта быў дзяржаўны пераварот—узурпацыя ўлады, бо на ўсеагульнае галасаваньне павінна было быць вынесена пытаньне аб праве гэтага Вярхоўнага Савета ажыцьцяўляць вышэйшую заканадаўчую ўладу ў Беларусі. І тут у чарговы раз сп. Шушкевіч мяняе пазіцыю і далучаецца да большасьці.

І ў апошні раз праходзіць міма ўнікальнай магчымасьці выратаваць свой палітычны твар і аказаць дэмакратыі сапраўдную паслугу. Гэтая магчымасьць існавала ўсяго некалькі дзён. Яна не вымагала ад сп. Шушкевіча ні палітычнай дальнабачнасьці, ні палітычнага майстэрства, якімі ён, відавочна, не валодае. Толькі мужнасьці і рашучасьці, якой так многа ў Станіслава Станіслававіча. Гэтую магчымасьць дала яму тая самая большасьць, якая растаптала рэферэндум, але, каб супакоіць грамадскую думку, паабяцала правесьці датэрміновыя выбары ў сакавіку 1994 г.

Гэтае абяцаньне само па сабе нічога не вартае. Таму што, каб рэалізаваць яго, ВС павінны быў прыняць папраўку да Канстытуцыі і новы выбарчы закон. Сёньня відавочна, што Вярхоўны Савет і не збіраўся гэтага рабіць. Але гэтае абяцаньне адкрыла для С. Шушкевіча ўнікальную магчымасьць за адзін дзень стаць нацыянальным героем. Для гэтага ён павінен быў праявіць ініцыятыву, права на якую дадзена яму законам, і выратаваць рэферэндум. Калі б ён ад свайго імя прапанаваў рэферэндум па правядзеньню датэрміновых выбараў у сакавіку 1994 г., ён адразу выбіў бы ўсе хлусьлівыя козыры наменклатурнай большасьці і паставіў бы ВС перад неабходнасьцю прызначыць дату рэферэндуму.

Такі рэферэндум ня мог адбыцца раней вясны 1993 г. У гэты час ішла падрыхтоўка да рэферэндуму ў Расіі. У грамадстве ўжо саспела разуменьне неабходнасьці разбурэньня сістэмы Саветаў—апошняга аплоту таталітарызму. Няма ніякага сумненьня, што і ў Беларусі народ прагаласаваў бы за датэрміновыя выбары на падставе дэмакратычнага закону. Не было б патрэбы ў барацьбе за новы выбарчы закон і папраўкі да Канстытуцыі. А абяцаньне дэпутатаў стала б законам.

Але Шушкевіч не зрабіў гэтага і канчаткова страціў кантроль над сітуацыяй. Ён як бы падвіс у беспаветранай палітычнай прасторы, не маючы ў ёй ніякай кропкі апоры. Яго падзеньне стала непазьбежным. І яго «сябры»-камуністы распачалі планавую падрыхтоўку да гэтай аперацыі.

Спачатку стаўка была зроблена на выпрабаванага «забойцу». Але З. Булахаў крыху падмачыў сваю рэпутацыю, учыніўшы сапраўднае забойства. Тады вядучая роля была даручана новаму «кілеру»—В. Ганчару. Апазіцыя, сьцяўшы зубы, бараніла «ветранага дэмаграта» С. Шушкевіча. А сп. Ганчар гаварыў занадта прыгожа. Таму спроба зваліць Старшыню Прэзідыума ўлетку 1993 г. правалілася.

Тады сцэнар ускладнілі і на першы план вылучылі сп. А. Лукашэнку—чалавека простага, як праўда, якую яму даручылі знайсьці. Сп. Лукашэнка бліскуча заданьне выканаў. Ня вельмі імкнучыся выкрыць сапраўдную карупцыю, ён усе намаганьні паклаў на збор кампрамату супраць С. Шушкевіча. Ну і што, калі «ўлоў» аказаўся небагаты!? Громкагалосна распаляючыся на пераліку даўно вядомых фактаў, ён, нарэшце, дайшоў да галоўнага. 13 разоў сп. Шушкевіч зьвяртаўся ў рамонтна-будаўнічае ўпраўленьне СМ. Зразумела, гэта ня сьціпла! Вось корань зла, з якога растуць карупцыя і мафіёзныя структуры.

Але сцэнарысты разумеюць, што і гэтага мала. Таму сюжэт закручваецца яшчэ больш удала. Лёс усьміхаецца бальшавікам. Сілавыя міністры, якія сваім абавязкам лічаць адданасьць закону, а не адданасьць прэм'ер-міністру, зьвяртаюцца да сп. Шушкевіча за падтрымкай. І ён у чарговы раз адварочваецца ад сваіх прыхільнікаў. Іх здымаюць з пасад па вартай сьмеху падставе—за парушэньне закону пры затрыманьні ў Менску літоўскіх камуністаў, якіх на радзіме абвінавачваюць у дзяржаўным злачынстве. А пракурор, які сапраўды парушыў літару закону, застаецца на сваёй пасадзе.

Наступае апошні акт трагікамедыі ў тэатры абсурду. Адбываецца галасаваньне. І Шушкевіча здымаюць за недастатковы кантроль над праваахоўнымі органамі і асабістую нясьціпласьць. А генерал, які па сваіх службовых абавязках павінен быў ажыцьцяўляць гэты кантроль над праваахоўнымі органамі, пад воплескі шчасьлівых ад доўгачаканай перамогі актораў усаджваецца ў яго яшчэ цёплае крэсла!

Але заслона не апускаецца. Яна апускаецца ў канцы дзеяньня ў нармальным тэатры. У тэатры абсурду—наадварот. Уздымаецца і заднік, размаляваны жудаснымі батальнымі сцэнамі змаганьня ВС з карупцыяй. І гледачу становяцца бачнымі і сцэнарысты, і куклаводы. Яны раскланьваюцца, але чамусьці ніхто не нясе ім кветак.

Так, Шушкевіч—не лідэр. З такога цеста, з якога ён зроблены, не выпякаюць лідэраў. Занадта крохкае. Ён—шкіпер, як абазваў яго ягоны пераемнік Грыб. Шкіпер, якога ўвесь час прымушалі пракладваць галсы, якіх ён, спадзяюся, не жадаў. Ён увесь час «падпарадкоўваўся большасьці». Гэткае ненатуральнае становішча не магло доўжыцца бясконца. Ён не стварыў сваёй большасьці, ня вёў яе за сабою, ня здолеў прымусіць падпарадкоўвацца логіцы і розуму. Ён нагадваў саслабеўшага лідэра воўчай зграі, якога больш моцныя і маладыя ваўкі ўвесь час пакусвалі за лыткі, калі ён спрабаваў збочыць, а не прасьледаваць ахвяру. І, у рэшце рэшт, яго разарвалі.

Але ж якія «душкі» нашыя камуністычныя нардэпы! Тройчы пражыўшы жывёльны страх—у красавіку і жніўні 91-га і кастрычніку 93-га—ледзь ачомаўшыся і выцершы спацелыя далоні, яны зноў і зноў браліся за сваю брудную справу. Пакуль не «звалілі белавежскага зубра». Але адстаўка Шушкевіча—гэта не іх перамога. Гэта—пачатак іх канца. Тое, што так доўга хавалася за шырмаю дэмакратыі, блытала нашае грамадства, апынулася навідавоку. Палітычная сітуацыя праясьнела. І заслужаная ўзнагарода сцэнарыстам, рэжысёрам і акцёрам палітычнага тэатра абсурду—не за гарамі.

**Нам. старшыні БНФ «Адраджэньне»**
**Ю. ХАДЫКА.**
(Перадрукоўка з газеты "Свабода").




## ЦІ ПАТРЭБНЫ ПАДАТКІ НАШАМУ ЎРАДУ?

Гэтае пытанне я задаваў сабе ўжо неаднаразова на працягу многіх месяцаў. І прыходжу да адназначнай высновы: не патрэбны цяперашняй нашай дзяржаве новыя крыніцы даходаў у бюджэт.

І вось чаму я так лічу.

І. У многіх былых савецкіх рэспубліках (напрыклад, у Літве), каб стаць прадпрымальнікам, неабходна зайсці на паштовае аддзяленне, патраціць пэўную суму грошай на квітанцыю, з гэтай квітанцыяй зарэгістравацца ў падатковым упраўленні—і ты прадпрымальнік. Усё гэта можна зрабіць на працягу аднаго дня. У нас, на Беларусі, акрамя адпаведнай платы, неабходна падаць заяву ў райвыканкам, пачакаць, пакуль адбудзецца пасяджэнне райвыканкама, на якім павінны прыняць нейкае рашэнне па гэтай заяве, усё запратакаліраваць і потым ты атрымаеш пасведчанне прадпрымальніка. Але гандляваць не зможаш, таму што для гэтага ты павінен атрымаць дазвол на месца для гандлю. А для гэтага трэба ўсё пачынаць спачатку. А калі ты вырашыў набыць кіёск, то папаходзіш ва ўпраўленне архітэктуры, на санстанцыю, да пажарнікаў і электрыкаў, цябе адправяць у ДАІ, у экалагічную камісію і г. д. І калі ты на працягу года адкрыеш свой кіёск, майстэрню ці яшчэ што-небудзь—значыць, табе, напэўна, пашанцуе. Каб не лічылі мяне галаслоўным, то звярніце ўвагу на невялікія пабудовы ля «сіняга дома» ў Віцебску, і вы ўсё зразумееце.

2. Вы адкрылі кіёск, абутковую або слесарную майстэрню. Але ў дзяржавы няма нармальнай грашовай адзінкі, г. зн. мы афіцыйна не выйшлі з расійскай рублёвай сістэмы, а стварылі нейкі сурагат ці то паралельна з чымсьці, ці то часовую сваю валюту (так званыя «зайчыкі»), якая не ўжываецца за межамі Беларусі пры міждзяржаўных разліках, нават паміж краінамі СНД. Падатковая інспекцыя лічыць яго 1:1 з іншымі валютамі гэтых краін. Наогул, невядома, па якому курсу праводзіць такія разлікі. Буйныя прадпрыемствы разлічваюцца бартэрам, лізінгам і іншымі замежнымі тэрмінамі. А як весці нармальны цывілізаваны ўлік, напэўна, толькі адзін Бог ведае. Уладальнікі невялікіх камерцыйных фірм пры плаваючым штодзённым курсе «зайчыка» да расійскага рубля, амерыканскага даляра, нямецкай маркі і г. д. не могуць планаваць сваю работу, не ведаюць як уплочваць падаткі,

(Заканчэнне на 4-й стар.).

## «...Надо свои вещи называть именами»

Гэтая энергічная, рытмічная да паэтычнасці фраза належыць аднаму з беларускіх дэпутатаў, які чарговы раз агітаваў за дзяржаўнасць расейскай мовы на Беларусі, як за сродак усталявання большай свабоды ў беларускім грамадстве. Вядома, памыліўся чалавек. Але што ўжо да свабоды, дык такіх вольнасцяў у дачыненні да мовы Пушкіна і Тургенева, як у беларускім ВС, не дазваляюць сабе, напэўна, болей нідзе. Варта прыгадаць, як дэпутат Лукашэнка ў сваім шырока распаўсюджаным дакладзе дапоўніў дэпутацкую «пярлоўку» (а ягоная доля ўвогуле досыць вялікая) выразам «на берегах Флориды». Трэба ж, усе газеты так і надрукавалі, напэўна, баючыся трапіць на вока «грознаму» дэпутату.

Маючы незайздросны дар, падобны да таго, якім валодаў цар Мідас (толькі з процілеглым вынікам), дэпутаты гэтага Вярхоўнага Савета ператвараюць у смецце ўсё, да чаго дакранаюцца. Таму ад іх трэба было б і беларускую мову з сімволікай ды іншымі атрыбутамі дзяржаўнасці (валюту ў тым ліку) ратаваць, каб Вярхоўны Савет з усёй савецкай сістэмай, якая даўно аджыла сваё і цяпер пакутліва памірае, не паспелі ўсю беларускую дзяржаўнасць заразіць сваёй трупнай атрутай, не паспелі надзяліць сапраўды беларускую дзяржаўнасць сваім характэрным «водарам». Суцяшае толькі тое, што пасля гэтых дэпутатаў, пасля таго, як яны нарэшце атрымаюць «адступное» ў выглядзе сенсацыйных персанальных пенсіяў, ніхто не назаве штонебудзь добрае «Саветам».

Увогуле, усё выглядае на тое, што і ў Расеі, і ў нас ідзе паступовы, магчыма, адвольны працэс кампраметацыі, аслаблення і змяншэння ўдзельнай вагі ў сістэме ўлады дэмакратычнага прадстаўнічага органа. У Расеі парадаксальнасць сітуацыі заключаецца ў тым, што вялікага поспеху ў выбарах у новы парламент дасягнулі сілы, якія з'яўляюцца прынцыповымі ідэйнымі праціўнікамі дэмакратыі і самога існавання падобнага дэмакратычнага органа, якім ён патрэбны толькі ў якасці сродка атрымання ўлады. Дарэчы, калі б нехта кшталту Жырыноўскага перамог у любой іншай краіне, а не ў Расеі, то свет стаў бы толькі больш смешным. Варыянт жа спалучэння ядзернай Расеі з Жырыноўскім выглядае трагічна, і ў першую чаргу таму, што з надзеяй на больш бяспечны свет у вялікай перспектыве трэба развітацца. Выбар, які зрабіла Расея, выкліча ланцуговую рэакцыю перамог на выбарах падобных партый і асоб у іншых краінах, як гэта аднойчы ўжо было ў першай трэці гэтага стагоддзя.

Вось і пасля даклада Лукашэнкі складвалася ўражанне, што вышэйшым інстытутам дэмакратычнай улады на Беларусі чарговы і апошні раз пакарысталіся. Карысталіся шырмай «дэмакратычнага парламента» да апошняй мяжы цярпення народа, а тады вырашылі «здаць» Вярхоўны Савет, сказаўшы народу вуснамі Лукашэнкі тую праўду, якую ўсе і так ведалі, каб за кошт і так загубленай рэпутацыі дэпутатаў цяперашняга ВС падсунуць беларускаму народу ў якасці правадыра і выратавальніка «свайго чалавека» і не пакінуць, такім чынам, народ без пастуха. Так ужо было раней, калі наменклатура выканкамаўская «здала» наменклатуру партыйную. Пад час «бенефіса». Лукашэнкі ў аб'ектыў тэлекамеры раз-пораз траплялі, можа быць выпадкова, то Скарынін, які абыякава перакладаў паперкі пад акампанемент самых гарачых лукашэнкаўскіх філіпік, то такі ж спакойны Грынёў, які выглядаў з-за пляча вусатага трыбуна. Адначасова праглядала жаданне знішчыць адным ударам і ўсіх патэнцыяльных канкурэнтаў і «злева», і «справа». Расследаванне злоўжыванняў «партыі ўлады» аб'ектыўна магло быць выкарыстана дзвюма палітычнымі сіламі: дэмакратамі і камуністамі. Але паколькі ПКБ—«кішэнная партыя», няздольная на самастойны палітычны курс, то вынікі падобнага расследавання маглі істотна ўмацаваць пазіцыі БНФ і іншых дэмакратычных партый. Гэтым і тлумачыцца той факт, што старшыня такой «сур'ёзнай» камісіі выкарыстаў супраць прадстаўнікоў апазіцыі вельмі няякасны кампрамат: чуткі, ману і намёкі—усё, што змаглі наскрэбсці тыя, хто яго рыхтаваў (канешне ж, не сам ён прыдумаў сваю ролю, як калісьці не сам прыдумаў «Дэмплатформу»). Цікава, што з ягонага даклада выглядвае адно з правілаў «псіхалагічнай вайны», пра якую ў нас (каму трэба) добра ведалі і калісьці шмат пісалі: «Очень важной особенностью психологии восприятия социальной информации... является неспособность нашего сознания сразу впитывать факты. Через недолгое время они стираются, несколько дольше сохраняются выводы из фактов. Прочно и стабильно откладывается лишь отношение к подобного рода ситуациям, событиям, явлениям...» (Артемов В. Л. Правда о неправде: Критические очерки по современной империалистической антисоветской пропаганде. Мн. 1985.С.156-157). Факт можа пры праверцы аказацца і не фактам, але пра факт і так ужо ніхто не памятае, так што адмывацца пасля Лукашэнкі—безвынікова.

Вяртаючыся да дзейнасці цяперашняга ВС, трэба адзначыць, што яго выкарысталі яшчэ адзін раз—каб навязаць Беларусі прэзідэнцкія выбары. Дзякуючы своеасаблівай логіцы дэпутацкай большасці, замест таго, каб наладзіць дзейнасць двух неэфектыўных органаў улады, ствараецца трэці. Як у показцы: замест таго, каб адмыць запэцканых дзяцей, робяць новых. 116 мільярдаў будуць каштаваць прэзідэнцкія выбары, а потым прэзідэнту спатрэбіцца вялізны апарат і адпаведны бюджэт. Напэўна, не ўсе яшчэ ўладкаваліся...

З кожным днём мацнее ўражанне, што прамысловасць свядома дабіваецца да абуха, каб потым, калі ўжо зусім не будзе каму плаціць падаткі і ў дзяржавы для падтрымання сваёй дзейнасці (хаця б) застанецца толькі адна крыніца сродкаў—продаж (а не бязвыплатная прыватызацыя) прадпрыемстваў у прыватныя рукі, выкарыстаць грошы, «накручаныя» за гады бескантрольнага распараджэння агульнанароднай уласнасцю.

Але самае трывожнае заключаецца ў тым факце, што гэты Вярхоўны Савет—першы на памяці ўсіх сучасных насельнікаў Беларусі вышэйшы заканадаўчы орган, які прэтэндуе на ролю дэмакратычнага парламента і ўвасабляе ў вачах народа дэмакратычную ўладу ў адрозненне ад часоў камуністычнага таталітарызму. Таму кожны чарговы дзень знаходжання цяперашніх дэпутатаў пры ўладзе вядзе не толькі да кампраметацыі самога Вярхоўнага Савета, але і кампраметацыі дэмакратычнай формы кіравання, дэмакратыі ўвогуле.

**Віктар Сцяпанаў.**
**г. Ворша.**

---

Як паведамілі сродкі масавай інфармацыі, В. Кебіч падпісаў пагадненне аб уваходжанні Беларусі ў рублёвую зону. Не паспелі мы выйсці з «сацыялістычнага лагера», як трапілі ў «рублёвую зону». Аднак можа так здарыцца, што гэтая "зона"—проста прапагандысцкі манеўр Кебіча пад час выбараў Прэзідэнта.

Пагадненне можа так і застацца на паперы.

